 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (689) 11 МАЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.

**11** мая ў будынку ГП БГКТ на Варшаўскай 11 шырока расчыняцца дзверы і выслужаныя сцены знаёмага асабняка напоўняцца гоманам пасланцаў беларускай арганізацыі. Тут, у гэты майскі дзень, адбудзецца VI з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Адбудзецца ён у асаблівы час. Уся наша краіна, увесь народ, усе яго жыватворчыя сілы жывуць павышаным тэмпам перадвыбарчай кампаніі ў сейм і рады нарадовыя, працоўнымі поспехамі імкнуцца дастойна сустрэць дваццаціпяцігоддзе народнай улады, той улады, якая першы раз у гісторыі польскай дзяржавы стала сапраўдным прадстаўніком працоўнага народа і гарантыяй яго лепшай будучыні.

Дабрадзейства сацыялістычнага ладу адчулі і нацыянальныя меншасці — раней прыгнечаныя, цяпер — зраўнаныя ў правах са сваімі братамі-палякамі, будуюць супольную багатую і справядлівую айчыну.

Наша арганізацыя, неадлучнае звяно Фронту адзінства народа, уносіць таксама ў гэту стваральную працу свой уклад. Мы гэтым ганарымся і будзем намагацца, каб наш уклад у агульнае будаўніцтва з кожным годам павялічваўся, даваў штораз лепшыя вынікі. Гэта не толькі наш гонар, але і абавязак. Перад нашым грамадствам, перад нашай краінай.

Мы ўпэўнены, што ўсе дэлегаты на VI з'езд БГКТ жывуць такімі самымі думкамі. Больш і лепей! Вось лозунг дня. Для дэлегатаў і шырокага актыву, для ўсіх нас, каму дарагая справа нашай арганізацыі і нашага далейшага грамадскага развіцця.

Плённай працы, дарагія дэлегаты!



ВІТАЕМ



VI З'ЕЗД БГКТ!

## ПРАЦА ДЛЯ АСЯРОДДЗЯ

**(СА СПРАВАЗДАЧНАГА ДАКЛАДА ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ)**

Уступаючае Галоўнае праўленне на працягу 3-гадовага перыяду сваёй працы адбыло 7 пленарных пасяджэнняў. Праблематыка гэтых пленумаў кранала асноўныя галіны працы таварыства, як рэалізацыя нашых пастаноў, ацэнка «Нівы», вязалася з гістарычнымі гадавінамі, улічвала ўнутрыдзяржаўныя падзеі, а таксама прадугледжвала заданні для актыву на кожны асенне-зімовы перыяд працы.

За гэты час Прэзідыум ГП БГКТ адбыло 28 пасяджэнняў. На іх абмяркоўваліся балючыя арганізацыйныя справы нашай арганізацыі, яе грамадска-культурная дзейнасць, рэалізацыя пастаноў пленумаў ГП, прымаліся квартальныя і гадавыя справаздачы і планы працы, разгледжваліся фінансы БГКТ і інш. Амаль ва ўсіх аддзелах адбыліся выязныя пасяджэнні Прэзідыум ГП БГКТ, што дазволіла глыбей пазнаць іх працу.

На працу нашага таварыства аграмаднае ўздзеянне аказвалі ўнутрыдзяржаўныя і міжнародныя палітычныя падзеі. Хопіць толькі ўспомніць, што ў 1966 годзе Беларускае таварыства шырока адзначыла 1000-годдзе Польскай дзяржавы. У час гэтых святкаванняў мы правялі 83 гутаркі і даклады, арганізавалі 15 выставак, 5 фестынаў. У тым жа годзе адзначылі мы таксама 40-годдзе Грамады, праводзячы 80 дакладаў. У 1967 годзе шырока адзначылі мы 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай Рэвалюцыі: правялі 112 вечарын — сустрэч з былымі ўдзельнікамі рэвалюцыі, на якіх прысутнічала каля 14 тысяч асоб.

1968 год быў асабліва багаты грамадска-палітычнымі падзеямі. У I квартале БГКТ адзначала 50-годдзе Савецкай Арміі (26 акадэмій, 46 дакладаў і 34 гутаркі), потым 25-годдзе Войска Польскага (30 вечарын і 49 дакладаў і гутарак). У другім паўгоддзі шырока ўдзельнічалі мы ў перадз'ездаўскай кампаніі Польскай аб'яднанай рабочай партыі, у сувязі з чым правялі 76 сустрэч, 46 дакладаў і 67 гутарак. У першым квартале гэтага года мы даволі шырока адзначылі 50-годдзе БССР — 15 акадэмій, у тым 4 павятовыя і 1 ваяводская, падрыхтавалі сотні выставак з жыцця БССР, якія экспанаваліся ў школах, клубах і прадпрыемствах.

Актыў БГКТ шырока ўключыўся ў паветах у перадвыбарчую кампанію ў сейм і рады нарадовыя, а беларускія аматарскія гурткі, «Лявоніха» і кінаўстаноўка — у абслугоўванне мастацкімі часткамі сустрэч з кандыдатамі да новых улад.

Гэты кароткі пералік асноўных момантаў нашай прапагандысцкай працы ў апошняй кадэнцыі сведчыць аб глыбокім заангажаванні БГКТ у агульнадзяржаўныя справы, аб яе станоўчых спробах ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння насельніцтва і — ў сваю чаргу — аб падтрымцы такога напрамку працы нашымі членамі і ўсім насельніцтвам.

### АРГАНІЗАЦЫЙНЫЯ СПРАВЫ

Значна слабейшых эфектаў дабіліся мы ў галіне арганізацыйных спраў. Праўда, лік аддзелаў БГКТ узрос з 8 да 10 (у канцы 1966 г. арганізавалі аддзел у Гарадку, а на пачатку гэтага года ў Гданьску), але лік гурткоў і членаў БГКТ узрастае надта памалу і нераўнамерна. Сістэматычны і найбольшы ўзрост выказвае Гайнаўскі аддзел (573). Найслабейшы — Міхалоўскі (— 114) і Дуброўскі (4). Добрыя рэзультаты асягнуў Гданьск (103 члены).

Яшчэ слабей выглядае справа са складчынамі. За апошнюю кадэнцыю, нягледзячы на намаганні Прэзідыум ГП і аддзелаў, мы ніколі на працягу года не змаглі асягнуць хоць 1/3 іх рэалізацыі. Вядучае месца ў працэнтным аплачванні складчын займаюць аддзелы ў Саколцы, Мілейчыцах, Варшаве і

Працяг на стар. 4

## ЗА НОВЫЯ ДАСЯГНЕННІ

**20** красавіка закончылася справаздачна-выбарчая кампанія перад з'ездам БГКТ, які адбудзецца 11 мая, а вынікі яе падведзены на пленарным пасяджэнні Галоўнага праўлення 27.IV.1969 г. На сходах гурткоў і канферэнцыях аддзелаў падсумоўваліся дасягненні нашай арганізацыі. І нягледзячы на значныя недахопы ў працы многіх гурткоў і некаторых аддзелаў дасягненні аказаліся аграмаднымі. Новай станоўчай з'явай з'яўляецца ініцыятыва і вынаходнасць гурткоў і паасобных іх членаў.

Памятаем дыскусіі на тэмы патрэбы існавання гурткоў. Іх роля зводзілася да аматарскай дзейнасці, якая не ў кожным гуртку — з адсутнасці адпаведна падрыхтаваных да гэтага кіраўнікоў. Даходзіць да таго факт, што радыёперадачы і тэлебачанне, якія сталіся больш даступнымі для вёскі, заспакойваюць яе культурныя патрэбы. Лічылася, што аматарскі рух у гэтых абставінах перажыўся, што не можа ён канкураваць з высока мастацкімі тэлевізійнымі перадачамі. Тыя, якія выказвалі гэтыя думкі, не разумелі, што перадачы тэлевізійныя і па радыё не толькі заспакойваюць культурныя патрэбы, але іх усё больш пабуджаюць.

Жыццё паказала, што патрэба жывога слова, а асабліва жывой песні, астаецца і ўмацняецца, і пагэтаму адміранне аматарскага руху не паграджае.

Незалежна ад гэтага, усё больш пашыраецца перакананне, што працу гурткоў не можна агранічваць да аматарскага руху. Гурток павінен быць ініцыятарам грамадскіх чынаў і распаўсюджвання агракультуры, інспіратарам усялякіх пачыnanняў патрэбных для вёскі. Гурткі павінны ўзначальваць палітычна-грамадскую і ідэалагічную работу, выхоўваць насельніцтва ў духу патрыятызму, інтэрнацыяналізму, паважання правілаў сацыялістычнага сужыцця.

Рэалізацыі гэтай мэты служаць арганізацыі дакладаў і гутарак, сустрэчы з пісьменнікамі, былымі дзеячамі КПЗБ і КПП, ветэранамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, удзельнікамі айчыннай вайны і партызанамі, акадэмій, фестынаў, мастацкіх выступленняў, пашыранне падпіскі часопісаў і чытальніцтва, асабліва роднай літаратуры, культурна-асветная работа ў клубе, апека над магіламі ахвяр фашызму і айчыннай вайны, збор экспанатаў для беларускага музея і таму падобнае. Усё гэта не тэарэтычны пералік, а зачэрпнута з практыкі гурткоў.

Узбагачанне форм і зместу працы ў гуртках і аддзелах пастулае разам са зменай саставу членаў у адносінах да ўзросту. На ўсіх канферэнцыях кідаецца ў вочы, што значная большасць дэлегатаў гэта моладзь — у Варшаўскім аддзеле перш за ўсё студэнцкая моладзь, якая чуецца звязанай са сваёй вёскай, з якой яна выйшла, са сваім народам.

Сярод гэтай моладзі няма месца для прадстаўнікоў тыпу героя з п'есы «Гарадскія госці». Моладзь гэта адзначаецца патрыятызмам, любоўю да сваёй бацькаўшчыны — Народнай Польшчы. Палітычна спелая, яна з абурэннем адкінула палітычныя спробы авантурыстаў уцягнуць яе ў сакавіцкія падзеі. Яна чуецца свойска ў БГКТ і пагэтаму разумна дыскутавала над палепшаннем і ўзбагачэннем працы.

Адмалоджванне арганізацыі заўважаецца і ва ўсіх аддзелах. Гэта знайшло адбіццё і ў спрэчках, якія вяліся на канферэнцыях. Замест вылічвання заслуг і цяжкасцей старэйшага пакалення, замест процістаўлення старэйшым моладзі: «якая прышла на гатовае», былі кароткія разумныя выказванні і канкрэтныя прапановы.

Канферэнцыі паказалі, што характэрным для дзейнасці БГКТ з'яўляецца тое, што арганізацыя жыве жыццём усяе краіны, уключаецца ва ўсе важнейшыя падзеі. Успомнім хоць бы удзел БГКТ у святкаванні Тысячагоддзя дзяржаўнасці Польшчы, 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, 50-ай гадавіны БССР, у кампаніі перад V з'ездам ПАРП і пасля з'езда.

Ва ўсіх пастановах канферэнцый ставіцца за заданне ўключыцца ў кампанію выбараў у Сейм і рады нарадовыя. Аддзелы забавязваюць разам з Фронтам адзінства народа клапаціцца, каб у

Працяг на стар. 4

 

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### 1-МАЙСКІ СВЕТ

Свята працоўных 1-га Мая ў гэтым годзе адзначалася вельмі ўрачыста ва ўсім свеце. Хіба ў ніводным дню лозунг: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» не гучэў так голасна. 1-га Мая перш за ўсё народы сацыялістычных краін маніфеставалі сваю інтэрнацыяналістычную сувязь са змагаючыміся народамі за грамадскае і нацыянальнае вызваленне, з працуючымі ўсіх краін, у якіх працягваецца барацьба за грамадскую справядлівасць. Што гэтая барацьба з'яўляецца неабходнай, хай сведчаць наступныя факты.

У Злучаных Штатах **42%** нацыянальнага даходу прыпадае на 500 найвялікшых прамысловых фірм. У Францыі **20%** насельніцтва найменш зарабляючага атрымлівае толькі **1,9%** даходу, у Англіі — **5%**, у ФРГ — **5,3%**, калі **20%** матэрыяльна найлепш забяспечаных забірае адпаведна — **53,7; 44,2** і **52,9%** нацыянальнага даходу.

У многіх еўрапейскіх краінах беспрацоўе асягнула найвышэйшы ўзровень пасля II-ой сусветнай вайны. У ЗША міма гаспадарчага ажыўлення, прычынай чаго з'яўляецца в'етнамская вайна, беспрацоўе ўтрымоўваецца ў граніцах 3 мільёнаў чалавек.

А вось як выглядае славутая дапамога імперыялістычных краін для меншых дзяржаў. Крэдыт, які атрымлівае Лацінская Амерыка ад ЗША і іншых высокаразвітых капіталістычных краін, сягае ў год каля 2 мільярдаў долараў. А адплывае з Лацінскай Амерыкі ў год 3,6 мільярдаў долараў, у тым ліку 1,4 мільярда з прычыны розніцы цэн між экспартаванымі сыравінамі а імпартаванымі прамысловымі таварамі: 1,0 мільярд гэта прыбытак і працэнт ад пазык; 1,2 мільярда долараў — сплата даўгоў.

Ясным з'яўляецца, што ўзровень жыцця сярэдне зарабляючага амерыканскага рабочага ёсць вышэйшы ад узроўню жыцця ў іншых краінах. Беручы пад увагу ўзровень спажыцця тавараў і паслуг, дык ЗША займаюць першае месца ў свеце. Склалася на гэта шэраг прычын. У кожным выпадку ўсе свае здабычы рабочыя асягнулі дзякуючы няўступчывай барацьбе з капіталістамі. Як дагэтуль, не ўдалося гэта негрыцянскаму насельніцтву. Характэрна, напрыклад, што ў ЗША сярод каляровага насельніцтва, ва ўзросце больш 25 год, амаль 20% непісьменных. У гэтай найбагацейшай капіталістычнай краіне свету аплата ў публічных вышэйшых школах сягае ў год 330 долараў, а ў прыватных — 1434 долары ў год.

Аднак перамога, поўная перамога залежыць ад адзінства дзеяння прагрэсіўных сіл.

### ХТО ПАСЛЯ ДЭ ГОЛЯ?

Такое пытанне на старонках газет, радыё і тэлебачання ўсяго свету. Не пад сілу пакуль што нікому адказаць на гэтае пытанне. Першыя выбары адбудуцца 1 чэрвеня г.г.

Адно з'яўляецца ясным, што калі б французскія левыя прынялі заклік французскай кампартыі і высунулі свайго кандыдата, ён перамог бы ў выбарах.

Практыка аднак паказвае, што левыя Францыі вельмі разбітыя. **А. К.**



## БССР

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

Апублікавана паведамленне аб выніках выканання Дзяржаўнага плана прамысловасцю Беларускай ССР у першым квартале 1969 года. Прырост вытворчасці прамысловай прадукцыі ў параўнанні з першым кварталам мінулага года склаў 12 працэнтаў. У некаторых галінах прырост вытворчасці значна больш ад вышэй паданага сярэдняга. Напрыклад, прырост вытворчасці ў паліўнай прамысловасці склаў аж 38 працэнтаў.

### ЗАГАДЧЫКАЎ

У ЦК КП Беларусі адбылася нарада загадчыкаў аддзелаў школ і ВНУ абкомаў і Мінскага гарадскога камітэта КПБ, загадчыкаў абласных аддзелаў і Мінскага гарадскога аддзела народнай асветы. Нарада была прысвечана пытанням паляпшэння работы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. У час нарады, м. ін. звернута ўвагу на патрыятычнае і інтэрнацыянальнае выхоўванне моладзі, навучэнцаў.

### ГОСЦІ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя чэхаславацкіх прафсаюзаў. Госці наведалі м. ін. Мінскі гадзіннікавы завод, які экспартуе сваю прадукцыю ў Чэхаславакію. Пабывалі таксама на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі Беларусі.

Членаў дэлегацыі чэхаславацкіх прафсаюзаў прыняў сакратар ЦК КП Беларусі Ф. Сурганаў.

### ЛЕНІНСКІ

Мінскі гарком КП Беларусі і Мінская вышэйшая партыйная школа правялі навукова-практычную канферэнцыю па тэме «Аб ленінскім стылі і далейшым удасканаленні партыйнай работы ў сучасных умовах».

На канферэнцыі прачытана тры даклады. Удзельнікі канферэнцыі абмяняліся вопытам работы, практыкай дзейнасці партарганізацый, дасведчаннямі па марксісцка-ленінскаму выхаванню камуністаў і беспартыйных.

### ГУРСКАГА

Урачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Ілы Гурскага, адбыўся ў клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Павіншаваць юбіляра прыйшлі сябры па пяру, прадстаўнікі творчых саюзаў, аб'яднанняў, рэдакцый газет і часопісаў, чытачы.

### БРЭСЦКІ

Брэсцкі народны ансамбль «Радасць» прыме ўдзел у еўрапейскім фестывалі фальклорнага танца, які адбудзецца гэтым летам у Францыі. Аматары пакажуць французскім гледачам «Палескую рапсодыю». Пасля фестывалю ансамбль зробіць гастрольнае турнэ па Францыі.

### СКАРЫНУ

У кінастудыі «Беларусьфільм» ствараецца мастацкі фільм пра вялікага нашага першадрукара і асветніка XVI ст. Францішка Скарыну.

Стваральнікі фільма, які правізорна называецца «Я, Францішак Скарына», наведалі Кракаў, цікавіліся асабліва падрабязна Кракаўскім універсітэтам, дзе прайшлі «гады станаўлення Скарыны як чалавека і вучонага». (С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### 1 МАЯ

З нагоды міжнароднага свята рабочага класа — 1 Мая — ва ўсіх гарадах краіны адбыліся паходы і радасныя святкаванні. У час маніфестацыі ў Варшаве з прамовай выступіў I сакратар Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзіслаў Гамулка.

Падкрэсліў ён вялікі ўдзел польскага рабочага класа і польскіх працоўных мас у барацьбе за мір і сацыялізм. Гэты ўдзел стаўся асабліва значным за перыяд народнай улады. Мінулае чвэрцьстагоддзе з'яўляецца найбольш плённым перыядам у гісторыі польскага народа. Прамоўца прывёў асноўныя паказальнікі нашага бурлівага развіцця: у 14 разоў пабольшылася за гэты час наша прамысловая прадукцыя і ў 4 разы нацыянальны даход. Найважнейшым аднак з'яўляецца тое, што ў саюзе ўсіх сіл сацыялістычнай дэмакратыі пад кіраўніцтвам партыі рабочага класа збудавалі мы сучасную дзяржаву, у якой сапраўдным гаспадаром з'яўляецца працоўны люд, што ў дружбе з Савецкім Саюзам і іншымі брацкімі краінамі ўгрунтавалі мы назаўсёды нашыя межы і бяспеку нашай краіны.

Наступна I сакратар ЦК партыі пераказаў сардэчныя віншаванні польскаму рабочаму класу, сялянам, інтэлігенцыі, моладзі, салдатам, міліцыянерам і ўсім грамадзянам Польшчы.

Навязваючы да набліжаючайся вялікай падзеі ў жыцці народа — выбараў у сейм і рады нарадовыя — прамоўца заклікаў да аддання ўсіх галасоў на спіскі кандыдатаў Фронту адзінства народа.

«Аддаючы, — сказаў ён, — усе галасы на кандыдатаў Фронту адзінства народа выявім сваю падтрымку для яго праграмы і давер для народнай улады, задэманструем наша адзінства ў барацьбе супраць усіх пачынанняў варожых Польшчы і сацыялізму, выявім наш патрыятызм і пачуццё адказнасці за будучыню нашай Айчыны».

Пераходзячы да міжнародных праблем прамоўца падкрэсліў вялікае значэнне дружбы брацкіх краін перад пагрозай з боку імперыялізму. Выказваемся за мірным агульнаеўрапейскім супрацоўніцтвам усіх дзяржаў незалежна ад грамадскага ладу, за супрацоўніцтвам, якое з'яўляецца адзінай альтэрнатывай у адносінах да імперыялістычнай палітыкі сілы і гонкі ўзбраенняў, у адносінах рэваншысцкай палітыкі заходнегерманскіх мілітарыстаў.

У заканчэнні свайго выступлення тав. Уладзіслаў Гамулка заявіў:

«Выяўляем глыбокае перакананне, што набліжаючаяся нарада камуністычных і рабочых партый узмоцніць адзінства ўсіх рэвалюцыйных і прагрэсіўных сіл пад сцягам пралетарскага інтэрнацыяналізму ў барацьбе за мір, дэмакратыю і свабоду народаў». п.



## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРШАМАЙ

Пры сонечнай прыгожай пагодзе весела прайшоў сёлеташні Першамай у Беластоцкім ваяводстве.

Цэнтрам першамайскай дэманстрацыі ў Беластоку была вуліца Марыі Кюры-Складоўскай. Тут знаходзілася ганаровая трыбуна, на якой месцы занялі: члены сакратарыята Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку на чале з I сакратаром, тав. А. Лашэвічам, прадстаўнікі іншых палітычных партый, прафсаюзаў, маладзёжных і грамадскіх арганізацый. Пасля заслухання першамайскай прамовы Уладзіслава Гамулкі, якая трансліравалася па радыё, рушыў першамайскі паход працоўных Беластока. Традыцыйна адкрывалі яго прадстаўнікі барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю. За імі ішлі рабочыя Беластоцкага прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана. Гэтае прадпрыемства разам з вялікім юбілеем народнай улады адзначае свой скромны юбілей — 25-годдзе існавання фабрыкі. За «сяржанаўцамі» ішлі рабочыя фастаўскага камбіната, а пасля — прадстаўнікі ўсіх іншых прамысловых прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, вузаў і школ — разам звыш 80 тысяч асоб, значыць палавіна насельніцтва горада Беластока.

У Гайнаўцы першамайскі паход адкрылі ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі: Якім Калыбка, Ян Раманюк, Хведар Леўчук і Аляксандр Сіліванюк. Зараз за імі ішлі заслужаныя рабочыя і дзеячы прафсаюза працаўнікоў драўлянай прамысловасці: Уладзіслаў Сокал, Францішак Арыновіч і браты Эдвард і Станіслаў Гжэшкевічы.

Падобным чынам адбывалася святкаванне Першамая ў Бельску, Саколцы, Сямяцічах і ў іншых мясцовасцях ваяводства. Працоўныя Беласточчыны дэманстравалі сваю адданасць айчыне, паказвалі, што выдайнай працай адзначаюць 25-годдзе народнай улады, кляймілі агрэсіўныя дзеянні амерыканскіх і іншых мілітарыстаў, выяўлялі сваю салідарнасць з усімі прагрэсіўнымі сіламі ў свеце.

### ДНІ АСВЕТЫ

У мінулую нядзелю ўрачыста былі адкрыты ў Беластоку «Дні асветы, кніжкі і друку». З гэтай нагоды традыцыйна ўжо наладжана шматкаляровы паход вучняў пачатковых і сярэдніх школ Беластока. Вучні дэманстравалі сваю любоў да бацькаўшчыны, а транспарэнты, лозунгі і макеты, якія яны неслі, адлюстроўвалі дасягненні Народнай Польшчы. Адна з вучнёўскіх калонак у прыгожых народных уборах несла эмблемы газет і часопісаў, якія друкуюцца ў Беластоку. Сярод іх знайшлася таксама эмблема нашага беларускага тыднёвіка.

Пасля ў парку ля тэатра можна было купіць цікавую кніжку і атрымаць аўтограф пісьменніка. Кірмаш кніжак прыцягнуў шматлюдныя натоўпы людзей. (зр)




**Niedziela, 11.V.**

8.50 Program dnia. 8.55 Kurs Rolniczy: „Zasady działania chemicznych środków ochrony roślin". 10.30 „Przypominamy, radzimy". 10.40 „Pireuskie tańce" — film bułg. 11.00 „Motocross" — Mistrzostwa Świata w klasie 250 cm. W przerwie, ok. 12.10 Dziennik. 13.30 „PROM". 14.10 „Przemiany". 14.40 Dla dzieci: „Jacek i wiewiórki" — film rum. 15.00 „Przed Wielkim Wyścigiem". 15.30 „Gdy drewno było twardsze od granitu". („Piórkiem i węglem"). 15.50 Finał X Olimpiady Wiedzy o Polsce i Świecie Współczesnym (Poznań). 16.35 Program filmowy. 17.15 „Kiermasz" — rep. z Dni Oświaty, Książki i Prasy. 17.45 „Bimbacz pospolity" — felieton TV. 18.00 Teatr TV na świecie. „Łobuz" wg noweli A. Czechowa pt. „Niedźwiedź". 18.50 PKF. 19.00 „Gryps" — rep. filmowy („Ludzie i zdarzenia"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Teatrzyk Jeremiego Przybory". 21.00 „Poszukiwacze złota" — film fab. USA. 22.20 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 12.V.**

15.10 Program dnia. 15.15 i 23.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. „Rozszczepianie światła". 15.50 i 23.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. „Wady układów optycznych". 16.20 Dziennik. 16.30 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z I etapu dookoła Warszawy (112 km). 18.10 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 18.55 „Jałta" — film radz. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Sejm IV kadencji". 20.35 Teatr TV: J. Słowacki — „Horsztyński" — dramat. 22.05 „Klaps" 22.35 Dziennik. 22.50 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Wtorek, 13.V.**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — J. Conrad „Jutro". 10.00 Dla szkół. (kl. IV) „Narodziny statku". 10.20 „Nowy York" — film dokument. wł. 11.20 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Podstawy klasyfikacji gleb". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.40 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z II etapu na trasie Warszawa — Łódź (158 km). 16.35 Dziennik. 16.45 „Artyści w Laveno" — film Tele-Aru. 17.10 „Tramp". 17.30 „Telekram". 17.40 „Nowy York" — film dokument. wł. 18.30 „Pod znakiem jakości" — program ekonomiczny. 19.00 „Gawędy o współczesności". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 22.00 Dziennik. 22.15 Kronika Wyścigu Pokoju (Łódź). 22.35 Program na jutro. 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. „Powierzchnie w przestrzeni". 23.15 Politechnika TV I roku. Matematyka. „Funkcje wielu zmiennych".

**Środa, 14.V.**

9.30 „Młodość Anny" — film fab. bułg. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Dlaczego samochód jedzie". 11.25 Przerwa. 14.20 Program dnia. 14.25 Matematyka w szkole: „Rozwiązywanie zadań na temat podobieństwa". 14.55 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. „Równania trygonometryczne" cz. II. 15.30 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. „Twierdzenie sinusów". 16.00 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z III i IV etapu na trasie Łódź — Piotrków Tryb. (42 km) — (indywidualny na czas) i Piotrków Tryb. — Gliwice (157 km). 16.55 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.20 TV Kurier Warszawski. 17.35 „Próby" — miesięcznik konsumenta. 18.00 „Filis" — opera jednoaktowa St. Moniuszki. 19.00 „Gawęda o współczesności". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 Program filmowy. 21.00 „Światowid". 21.30 PKF. 21.40 „Pożarowisko" — film TVP („Opowieści niezwykłe"). 22.10 Dziennik. 22.25 Kronika Wyścigu Pokoju (Katowice).

**Czwartek, 15.V.**

11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Julian Tuwim". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 i 22.40 Politechnika TV I roku. Fizyka. „Ultradźwięki". 15.30 i 23.15 Politechnika TV I roku. Fizyka. „Temperatura, własności temperaturowe ciał stałych i ciekłych". 16.00 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z V etapu na trasie Gliwice — Wałbrzych. 16.55 Dziennik. 17.10 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.45 TV Kurier Białostocki. 18.00 Sprawozdanie z międzynarodowego mittingu lekkoatletycznego (eliminacje przed meczem Europa — Ameryka). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Spotkanie gospodarzy". 20.35 „Druga żona" — film („Alfred Hitchoock przedstawia"). 21.25 „Peer Gynt" E. Griega — widowisko baletowe w wyk. baletu Teatru Wielkiego w Łodzi. 21.55 Dziennik. 22.10 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Piątek, 16.V.**

9.10 „Statek z dynamitem" — film fab. rum. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „W komitecie zakładowym PZPR". 11.25 Przerwa. 14.35 Program dnia. 14.40 „Wybieramy zawód". 15.00 i 22.40 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. „Zasady porządkowe wymiarowania". 15.35 i 23.20 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. „Rysowanie połączeń śrubowych, rurowych, wielowpustowych i napędów zębatych". 16.15 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia VI etapu na trasie Wałbrzych — Wrocław (152 km). 17.10 Dziennik. 17.20 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.35 TV Kurier Mazowiecki. 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 „Don Kichot" — film. 18.35 Wszechnica TV: „Człowiek i Kosmos". 19.20 „Dobranoc" — „Legendy Krakowskie". 19.30 Dziennik. 20.00 „Czwarta zmiana". 20.30 Teatr TV: L. Feuchtwanger — „Bracia Lautensack". 21.55 „10 minut recenzji". 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Sobota, 17.V.**

10.25 „Mój stary" — film fab. pol. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ssaki". 12.25 Przerwa. 14.45 Program dnia. 14.50 TV Kurs Rolniczy: „Uprawa lucerny". 15.25 Program tygodnia. 15.45 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z VII etapu na trasie Wrocław — Poznań (203 km). 16.40 Dziennik. 16.50 Teatr Młodego Widza: M. Nowakowski i Z. Wróblewski — „Ochotniczka". 18.00 „Spotkanie z przyrodą". 18.25 „Pegaz". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 Program rozrywkowy. 21.10 Dziennik TV i Wiadomości Sportowe. 21.30 „Te rozkoszne dziewczęta" — film fab. franc. 23.05 Kronika Wyścigu Pokoju.

 

# ДЭЛЕГАТЫ на VI з'езд БГКТ

### НІНА МУШЫНСКАЯ



Ураджэнка Супраслі. Яшчэ перад вайною атрымала сярэднюю адукацыю ў Беластоку. У 1934 годзе выйшла замуж і ад гэтага часу жыве ў Гарадку. У 1941 годзе мужа яе прызвалі ў Чырвоную Армію, і з вайны ён ужо не вярнуўся. Цяжка прышлося ёй. Выхоўвала сама двух сыноў. Пасля вызвалення Ніна Мушынская ўключаецца ў актыўную дзейнасць. 15 год працавала ў ГРН-е і там праз дзве кадэнцыі была сакратаром.

На пачатку 1955 года арганізавала яна харавы калектыў, які даў першае выступленне 8-га сакавіка. Слава аб гарадоцкім калектыве пракацілася па ўсёй Беласточчыне, а нават па-за яе межамі. Да 1958 года пад яе кіраўніцтвам жаночы хор даў больш 300 выступленняў. Ніна Мушынская складала песні і давала ім мелодыю. Гэтых песень налічваецца каля 50-ці. Яна была ўдзельнікам I з'езда БГКТ і на ім выступала са сваім калектывам. Пачаткова была яна і членам прэзідыума ГП. Пазней падупала Ніны Мушынскай здароўе. І слава Гарадка заняпала. У мінулым годзе яна зноў была галоўным арганізатарам хору, які зноў вярнуў мінулую славу гарадоцкім жанчынам. Зараз Ніна Мушынская з'яўляецца членам праўлення гарадоцкага аддзела БГКТ. Яна ўжо пенсіянерка.

### ІВАН ГРЫЦ



Важак моладзі ў Новым Востраве, старшыня гуртка БГКТ і ЗМВ, ініцыятар грамадскіх чынаў. Каб лепшыя атрымоўваць вынікі ў сельскай гаспадарцы, закончыў СПР (школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі) у сваёй вёсцы. Ужо некалькі кадэнцый з'яўляецца членам праўлення Сакольскага аддзела БГКТ.

### АЛЯКСАНДР ХЛЯБІЧ



Селянін з сярэдняй адукацыяй з вёскі Рыбакі (Беластоцкі павет). З'яўляецца членам сельскагаспадарчага гуртка ў Багнюках. У 1952—1956 гадах вучыцца і паспяхова заканчвае агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове. У члены БГКТ быў прыняты ў 1958 годзе. У сваім вясковым гуртку выконвае функцыю старшыні, а пасля сакратара. Нядаўна на справаздачна-выбарчай канферэнцыі Міхалоўскага аддзела быў выбраны сакратаром аддзела БГКТ.

(мх)

### РАСЦІСЛАЎ МАЗАЛЕЎСКІ



Нававыбраны старшыня Сакольскага аддзела БГКТ. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Хільмоны на Дуброўшчыне. Ад 1955 працуе ў павятовым камітэце ПАРП у Саколцы і адначасова завочна вучыцца і заканчвае агульнаадукацыйны ліцэй. Расціслаў Мазалеўскі ўжо 11 год з'яўляецца кіраўніком пункта прапаганды гэтага ж камітэта. Ён узначальвае таксама Сакольскі аддзел прафсаюзаў дзяржаўных і грамадскіх працаўнікоў, а таксама з'яўляецца членам прэзідыума Павятовага праўлення Польска-савецкай дружбы.

### МІКАЛАЙ ГАЙДУК



Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Кабылянка ля Міхалова. Агульнаадукацыйны ліцэй закончыў у Міхалове і два гады працаваў у ГРН дэлегатам скупу. У 1953 годзе выязджае вучыцца ў СССР. У 1959 годзе закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у Мінску і пачаў працаваць у агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. Ад 1-га верасня 1965 года асветныя ўлады даручаюць яму функцыю дырэктара гэтага ж ліцэя. Ён са сваёй жонкай Лідзіяй (таксама настаўніца беларускай мовы) падрыхтавалі падручнікі да навучання беларускай мовы ў III, IV і V класах. Увесь час Мікола Гайдук належыць да асноўнага актыву БГКТ. Прэзідыум ГП паверыла яму рэдактарства беларускага календара на 1970 год. З'яўляецца таксама членам ідэалагічнай камісіі пры Павятовым камітэце ПАРП. Нядаўна ўзначаліў ён Бельскі аддзел БГКТ. Трэба ўспомніць і аб тым, што піша ён доктарскую працу пры Інстытуце рускай, украінскай і беларускай філалогіі ў Варшаве.

(мх)

### МІКАЛАЙ ІВАНЧУК



Мікола Іванчук — адзін з дэлегатаў Варшаўскага аддзела на VI з'езд БГКТ — нарадзіўся ў вёсцы МалінніКі, Бельскага павета, у 1948 годзе. Пасля заканчэння пачатковай школы ў роднай вёсцы пайшоў вучыцца ў агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску. Пасля заканчэння ліцэя ад 1966 года з'яўляецца студэнтам рускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Праз увесь час вучобы ў ліцэі, а таксама ва ўніверсітэце, сябар Іванчук не парываў сувязі з роднай вёскай дзейнічаючы у ёй мастацкім гуртку БГКТ. Нават зараз, будучы ў Варшаве, з'яўляецца актыўным членам мастацкага гуртка, прыймае ўдзел у яго працы з нагоды кожных канікулаў і едзе ў родную вёску, заўсёды тады, калі патрабуе грамадская праца. Сябар Іванчук з'яўляецца адначасова старшынёй гуртка Саюза вясковай моладзі пры Інстытуце рускай, беларускай і ўкраінскай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Гурток гэты прызнаны быў уладамі саюза найлепшым гуртком ЗМВ ва ўніверсітэце. Апрача таго Мікола Іванчук з'яўляецца адным з найбольш актыўных дзеячоў Варшаўскага аддзела БГКТ.

(п)

### СЯРГЕЙ ФІЛІПЮК



Кіраўнік васьмікласнай школы ў Рыбалах і адначасова сакратар мясцовага грамадскага камітэта ПАРП. Працуе ўжо настаўнікам 11 год. Вядомы ён на Беласточчыне як дасканалы мастацкі кіраўнік драмгуртка. Пачаткова ў Паўлах (гэта яго родная вёска), а апошнім часам у Рыбалах пры яго дапамозе драмгурткі дабіліся вельмі высокага ўзроўню. У гэтым годзе пачаткова ў Бельску, а пасля ў Гайнаўцы рыбалаўскі драмгурток атрымаў высокую ацэнку і выступіў на ўрачыстым канцэрце нацыянальных меншасцей у Беластоку. Сяргей Філіпюк ужо многа год з'яўляецца членам праўлення Бельскага аддзела БГКТ і членам Галоўнага праўлення. Вучыцца ён зараз завочна на 3-цім курсе Вышэйшай школы планавання і статыстыкі ў Варшаве.

### АЛЯКСЕЙ ШЧУКА



Магістр эканоміі — абсальвент Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Варшаве. Зараз дырэктар інвалiднай спулдзельні працы ў Гайнаўцы, у якой працуе 324 асобы. На гэтай пасадзе працуе ўжо 9 год. Прадпрыемства пад яго кіраўніцтвам кожны год выпрацоўвае вялікія сумы чыстага даходу. Напрыклад, за мінулы год інвалідная спулдзельня мела чыстага даходу 1.224 тыс. зл.

Апрача сваёй прафесіянальнай работы мае Аляксей Шчука шмат грамадскіх абавязкаў. Ён намеснік старшыні рэвізійнай камісіі пры КП ПАРП, член камісіі бюджэту і планавання пры прэзідыуме ПРН, засядацель суда (другую кадэнцыю) ў Бельску Падляшскім. З'яўляецца актывістам аддзела БГКТ. Апошняй выбарчай канферэнцыяй БГКТ у Гайнаўцы выбраны ў праўленне аддзела.

### АНАТОЛЬ МАРТЫНОВІЧ



Дзеяч Беларускага таварыства ў Сямяціцкім павеце, шматгадовы старшыня аддзела БГКТ. Паходзіць з Орлі. Працуе кіраўніком васьмікласнай школы ў Вілінаве.

Анатоль Мартыновіч добры арганізатар аматарскага руху, таленавіты рэжысёр многіх п'ес, якія гурток БГКТ ставіў у сваёй і суседніх вёсках. Апрача таго з яго дасканалы дырыжор. У Вілінаве і драмгурток і харавая група маюць вялікія дасягненні.

Анатоль Мартыновіч вядомы дзеяч свайго асяроддзя, арганізатар грамадскіх чынаў, пры дапамозе якіх многа чаго карыснага і патрэбнага зроблена ў вёсцы.

### ІВАН ВОЙЦЮК



Старшыня Павятовага праўлення ЗМВ-у ў Бельску-Падляшскім. Кіруе ён трохтысячнай арганізацыяй вясковай моладзі. Іван Войцюк, закончыўшы педагагічны ліцэй пачаткова працаваў настаўнікам, а пасля ў павятовым доме культуры ў Сямяцічах. Працу з моладдзю ён любіць і ў час працы на працягу паўтара года павялічылася маладзёжная арганізацыя на 100 чалавек. Гурткі БГКТ і ЗМВ цесна супрацоўнічаюць паміж сабою. Ад 20-га красавіка з'яўляецца ён членам праўлення Бельскага аддзела БГКТ.

(мх)

### ЮРЫ КІСЛЫ



Ужо 11 год з'яўляецца ён сакратаром грамадскай рады нарадовай у Семяноўцы. Працуе з людзьмі, жыве іх справамі, хваляваннямі. Раней працаваў бухгалтарам спулдзельні прадукцыйнай. Цяпер у Семяноўцы ёсць сельскагаспадарчы гурток. Юрка Кіслы з'яўляецца старшынёй рэвізійнай камісіі. Ужо многа год выконвае ён функцыю сакратара мясцовага гуртка Беларускага таварыства, які налічвае тут 38 членаў. Без яго (гуртка) нельга ў вёсцы нічога зрабіць, таму што ў ім найбольш актыўныя людзі Семяноўкі. Павятовы аддзел БГКТ арганізаваў у Семяноўцы фестыны і іншыя мерапрыемствы. Праўленне аддзела заўсёды перакопана, што ў Семяноўцы ўдасца кожнае мерапрыемства, таму што тут пад кіраўніцтвам Юркі Кіслага і Мацкевіча добра працуе гурток БГКТ. Юрка Кіслы з'яўляецца членам праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ.

### АЛЯКСАНДР ІВАНЮК



Паходзіць з Кленік, Гайнаўскага павета. Нарадзіўся ў 1935 годзе. Закончыўшы беларускі ліцэй у Гайнаўцы, быў прыняты на беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта. Магістрам беларускай філалогіі Аляксандр Іванюк вярнуўся ў свой павет і працуе ў Гайнаўцы настаўнікам. Ад 1-га верасня 1968 года з'яўляецца дырэктарам агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Ад 1963 года ён старшынствуе ў Гайнаўскім аддзеле Беларускага таварыства, які з'яўляецца найбольшым па колькасці членаў БГКТ. Існуе там 70 гурткоў і амаль усе яны нядрэнна працуюць.

### ІВАН СТРЫШКО



Ваенны інвалід апошняй вайны. Будучы ў радах Чырвонай Арміі граміў нямецкіх захопнікаў і быў тры разы ранены. Родам ён з Коматаўцаў, што ў Беластоцкім павеце. Ад 1950 года жыве ў Беластоку і працуе пачаткова ў органах бяспекі, а пасля ў гарадскім гандлі. Ад 1954 года па сённяшні дзень узначальвае аддзел кадраў інвалiднай спулдзельні працы і аховы дзяржаўнай маёмасці. Іван Стрышко ў сваёй установе ўжо 15 год з'яўляецца сакратаром партыйнай арганізацыі, 11 год грамадскім інспектарам працы (інспектар агульным сходам выбіраецца кожныя 3 гады) і 8 год членам праўлення ОРМО ў сваёй спулдзельні.

Іван Стрышко быў удзельнікам І-га з'езда БГКТ і ад 1956 года з'яўляецца членам нашай арганізацыі. Ён ужо некалькі год ёсць у праўленні гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, а ад 3-га сакавіка гэтага года выконвае функцыю сакратара аддзела.

(мх)



 



**Бельскі хор пад кіраўніцтвам Міхася Артышэвіча ў час выступлення ў Бельску Падляшскім на аглядзе аматарскіх калектываў БГКТ. фота (Р.З.)**

# ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення 27 красавіка зацвердзіла справаздачны даклад на з'езд БГКТ. Даклад гэты атрымаюць усе дэлегаты з'езда. Наступным пунктам пасяджэння была ацэнка справаздачна-выбарчай кампаніі ў аддзелах. У дакладзе сакратара ГП і ў выступленнях дыскутантаў падкрэслівалася, што справаздачна-выбарчая кампанія БГКТ ажывіла дзейнасць гурткоў і аддзелаў, якія свае далейшыя планы дзейнасці накрэслівалі пры дапамозе пастаноў V-га з'езда ПАРП. У большасці канферэнцый бралі ўдзел прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад. Яны забіралі голас і станоўча ацэньвалі дзейнасць Беларускага таварыства. Не цікавяцца толькі дзейнасцю БГКТ павятовыя партыйныя ўлады ў Беластоцкім павеце, на тэрыторыі якога дзейнічаюць два аддзелы — Гарадоцкі і Міхалоўскі. Гэтае ж самае трэба сказаць і аб гарадскім камітэце партыі ў Беластоку.

Паасобныя нашы аддзелы маюць вялікія дасягненні. Напрыклад, Мілейчыцкі аддзел вядомы са сваёй арганізацыйнай пругкасці і аўтарытэту ў асяроддзі. Мае ён высокую ацэнку насельніцтва і ўлад.

Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізуе многа мерапрыемстваў павятовага значэння: акадэміі, фестыны, вечарыны, сустрэчы.

У Бельскім аддзеле да найбольшых дасягненняў трэба залічыць развіццё аматарскага руху ў вёсках і пры аддзеле. Добра ўладжваецца тут супрацоўніцтва з ЗМВ-у, з інспектаратам асветы і настаўнікамі.

На Сакольшчыне гурткі БГКТ праяўляюць шмат актыўнасці, арганізуюць грамадскія чыны, апякуюцца клубамі, павялічваюць колькасць аматарскіх калектываў. Гэтая нізавая ініцыятыва вельмі важная і яе не павінна затраціць новавыбранае праўленне на чале з новым старшынёю Расціславам Мазалеўскім.

Гарадоцкі аддзел арганізаваў мастацкі калектыў, які дзякуючы творчай ініцыятыве і ахвярнай працы стаўся не толькі гонарам Гарадка, але і ўсяе нашай арганізацыі.

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку наладзіў даволі добра працу на месцы. Працуюць тут: клуб, бібліятэка, арганізаваны праблемны курс, музычны курс для дзяцей, адбываюцца сустрэчы з вядомымі людзьмі і т.д. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца акадэміі прысвечаныя слаўным гадавінам, а таксама танцавальныя вечарыны, у якіх удзел у асноўным прымае моладзь.

Падобную дзейнасць вядуць Варшаўскі і Гданьскі аддзелы. Там, між іншым, уцягваецца ў працу моладзь вышэйшых устаноў.

У Міхалоўскім аддзеле апошнім часам таксама паляпшаецца праца.

Да 27-га красавіка не адбылася толькі справаздачна-выбарчая канферэнцыя ў Дуброўскім аддзеле.

Пасля заканчэння пленума ўсе яго ўдзельнікі пашлі ў тэатр на ўрачысты канцэрт найлепшых аматарскіх калектываў нацыянальных меншасцей Беласточчыны.

* ✲ *

Бельскі хор пад кіраўніцтвам Міхася Артышэвіча і дуэт з Мілейчыц пасля ўрачыстага канцэрта выступілі з багатай праграмай у памяшканні ГП.

Члены БГКТ горада Беластока горача ўспрынялі ўсе выконваемыя песні, якіх у праграме налічвалася больш дваццаці. (мх)

## ВЕРШЫ БЕЛАРУСКІХ ПАЭТАЎ У ВАРШАЎСКІМ РАДЫЁ

У другой праграме Варшаўскага радыё 15 красавіка ў 22 гадз. 45 мін. адбылася перадача, у якой прадстаўлена польскаму слухачу вершы сучасных беларускіх паэтаў. Пераклаў іх на польскую мову лодзінскі пісьменнік Ян Гушча, які адначасова напісаў уступнае слова да перадачы, даючы кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры ад чачотаўскіх часоў па сёння.

Дэкламавана ў перадачы вершы: Бічэль-Загнетавай, Панчанкі, Танка, Вярцінскага, Макаля, Наўроцкага, Барадуліна. (ся)

## ЗДАЮЦЬ ЭКЗАМЕНЫ

Беларускі ліцэй у Бельску вядомы і з таго, што ягоныя выпускнікі добра здаюць экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вядома, гэта з'яўляецца рэзультатам намаганняў высокакваліфікаваных настаўніцкіх кадраў ліцэя, а таксама спрыяльных памяшкальных умоў. На агульны лік 64 выпускнікоў з мінулага года прынята ў вышэйшыя школы 35 асоб — у іх ліку 28 асоб у пяцігадовыя вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны. (ся)

## СВЯТА КРЫНКАЎСКІХ ГАРБАРОЎ

У сувязі з 25-годдзем народнай улады і 400-годдзем Крынак адбылася там урачыстасць, прысвечаная між іншымі і дасягненням крынкаўскіх гарбароў. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад на чале з першым сакратаром Павятовага камітэта партыі тав. Іванам Дзянісюком і старшынёй Прэзідыума павятовай рады нарадовай у Саколцы тав. Аляксандрам Чужам.

Заслужаныя дзеячы гарбарнай прамысловасці ў Крынках удастоены высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Кіраўнік гарбарні **Усевалад Анісімовіч** узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, майстар **Вацлаў Карвель** узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі. Бронзавымі крыжамі заслугі ўзнагароджаны майстры: **Уладзімір Пратасевіч і Тадэвуш Пухальскі.**

У сучасны момант коштам 58 мільёнаў злотых адбываецца разбудова крынкаўскай гарбарнай прамысловасці, што дазволіць у недалёкай будучыні ўдвая павялічыць прадукцыю. Практычна кожная другая сям'я ў Крынках будзе жыць з працы ў гарбарнях. Гарбарныя традыцыі ў Крынках надта даўнія і жывыя па сённяшні дзень, нягледзячы на тое, што ў выніку апошняй вайны былі зраўнаны з зямлёй амаль усе фабрыкі ў гэтым некалі прамысловым горадзе, які святкуе зараз сваё Чатырохсотгоддзе. Дзеці гарбароў паступаюць вучыцца ў радомскі гарбарны тэхнікум, а сын аднаго з працаўнікоў гарбарні, Генадзь Носка, закончыў гарбарны факультэт Лодзінскай палітэхнікі.

Сардэчным акцэнтам урачыстасці з'явілася развітанне **Усевалада Анісімовіча,** кіраўніка гарбарні і вядомага актывіста БГКТ, які адышоў на заслужаную пенсію. Годным яго намеснікам на пасадзе кіраўніка стаў менавіта **Генадзь Носка,** магістр гарбарнай інжынерыі, высокага класа спецыяліст і ўраджэнец Крынак.

Без перабольшання можна сказаць, што Крынкі знаходзяцца напярэдадні свайго паўторнага росквіту. (С.Я.)

Пачатак на стар. 1




рады нарадовыя ўвайшлі найбольш ахвярныя і адпаведныя людзі. Да найбліжэйшых заданняў належыць таксама святкаванне 25-ай гадавіны існавання Польскай Народнай Рэспублікі і сотая гадавіна нараджэння Леніна.

Удзельнікі канферэнцый згодна выказваліся аб неабходнасці цеснага супрацоўніцтва БГКТ з іншымі палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі асабліва з Саюзам сацыялістычнай моладзі і Саюзам вясковай моладзі, а ў першую чаргу з партыйнымі арганізацыямі.

Падкрэслівалася неабходнасць папулярызацыі дружбы і супрацоўніцтва з савецкімі народамі, асабліва з БССР, азнаямленне насельніцтва з дасягненнямі Савецкага Саюза праз гутаркі, даклады, фотавыстаўкі, высвятленне савецкіх фільмаў, публікацый у «Ніве» і іншых выдавецтвах.

Многа пастулатаў было накіравана па адрасу Галоўнага праўлення. Успомнім, напрыклад, патрабаванні адпаведнага рэпертуару для драмгурткоў і мастацкіх калектываў, забеспячэнне бібліятэк у беларускія кніжкі, умацаванне кантактаў з БССР, пастулат абмену мастацкіх калектываў, арганізавання экскурсій, а з мэтай стварэння да гэтага большых магчымасцей прыдбання аўтакара, увядзення нарад старшынь гурткоў у аддзелах і многія іншыя. Новае Галоўнае праўленне павінна ўважліва вывучыць матэрыялы канферэнцый і сходаў гурткоў і ўзяць пад увагу ў апрацоўцы плана дзейнасці.

Праца БГКТ атрымала на канферэнцыях аддзелаў высокую ацэнку прадстаўнікоў партыі і ўлад. Гэта тым больш забавязвае арганізацыю да яшчэ большых намаганняў у барацьбе за яшчэ лепшыя дасягненні.

**В. Склубоўскі**
Старшыня ГП БГКТ

Пачатак на стар. 1




Беластоку (з увагі на невялікі лік членаў). Найбольшыя грашовыя сумы даюць Гайнаўскі і Беластоцкі аддзелы, на долю якіх выпадае звыш палова ўсіх складчын БГКТ.

З увагі на сталыя міграцыйныя працэсы, наша арганізацыя не зможа асягнуць 100% аплачвання складчын, але цяжка сабе ўявіць прычыну, чаму, напрыклад, аддзелы ў Міхалове, Гарадку і Дуброве на працягу ўсяго I квартала гэтага года, у час якога праводзіліся справаздачна-выбарчыя канферэнцыі, не сабралі або не ўплацілі ў ГП ніводнай залатоўкі членскіх складчын. Становішча такое абніжае паказчыкі аплачвання складчын і згодна са статутам БГКТ даводзіць да таго, што праўна лік членаў сягае каля 2000 асоб.

Усе вышэй успомненыя аддзелы ў галіне арганізацыйных спраў даволі слабыя. Рэдка тут адбываліся пасяджэнні праўленняў аддзелаў, слаба рэалізаваліся ўласныя пастановы, актыў праяўляў малое зацікаўленне працай БГКТ.

У супрацьпастаўленне ім, аддзелы ў Мілейчыцах, Гайнаўцы, Беластоку, Бельску ў арганізацыйных справах выказваліся добрай працай. Тут сістэматычна адбываліся пасяджэнні праўленняў аддзелаў (4—8 у год). Некаторыя аддзелы (Беласток, Гайнаўка) выдзялілі са складу праўлення 3—5-асабовыя прэзідыумы, якія праводзілі пасяджэнні кожны месяц і вырашалі на іх рэалізацыю бягучых заданняў. Вакол гэтых аддзелаў згуртаваўся адданы актыў. Назавем некаторых таварышоў: у Мілейчыцкім аддзеле — яго старшыня Анатоль Мартыновіч, Іван Вішанка, Сяргей Крэйза, Тэкля Вашчук; у Гайнаўскім аддзеле — старшыня Аляксандр Іванюк, Мікалай Самоцік, Васіль Сакоўскі, Кастусь Майсеня, Васіль Дзун, Янка Цялушэцкі, Мікалай Суліма, Міхась Тэлешэўскі, Кастусь Грыц; у Беластоцкім аддзеле — старшыня Кастусь Масальскі, Уладзімір Навіцкі, Уладзімір Куршэль, Іван Стрышко, Анна Амброжэй; у Бельскім аддзеле — Уладзімір Раеўскі, Мікалай Серадынскі, Язэп Альшэўскі, Мікалай Гайдук, Янка Суліма, Аляксандр Хшаноўскі, Сяргей Філіпюк і многа іншых.

### ГУРТКІ

Дзякуючы ахвярнай працы актывістаў сістэматычна ўзрастаў аўтарытэт нашай арганізацыі, паляпшалася праца гурткоў. Пакажам дасягненні некаторых з іх. Гурток БГКТ у Вілінаве, Сямяціцкага павета, заініцыяваў пабудову вясковага дома культуры і супольна з партыйнай і маладзёжнай арганізацыямі і пры падтрымцы ўсяго насельніцтва ў гэтым годзе выканае свой пачын. Грамадскі ўклад працы насельніцтва складзе каля 300 тысяч злотых. Члены гуртка бралі актыўны ўдзел у пабудове 1,5 км бруку ў сваёй вёсцы. Заўсёды дзейнічаюць тут аматарскія калектывы. На працягу апошніх 3-х год далі яны каля 60 выступленняў.

Гурток БГКТ у Малінніках, Бельскага павета, ладзіць вечарыны, сустрэчы, акадэміі, развівае аматарскі рух.

Гурток БГКТ у Слоі, Сакольскага павета, вядзе культурна-асветную дзейнасць: ладзіць акадэміі, вечарыны, пашырае працу драматычнага гуртка, прымае ўдзел у грамадскіх чынах вёскі. Апошнім часам гурток абавязаўся ў гонар 25-годдзя ПНР дадаткова выканаць грамадскіх прац на 30 тысяч злотых.

Гэтыя гурткі дзейнічаюць у асяроддзі таму, што ёсць у іх актыўныя людзі, якія на штодзень кіруюць працай. Іх часцей наведвае актыў і штатныя працаўнікі. Нароўні з гэтымі добрымі гурткамі, існуе многа слабых гурткоў, якія чакаюць на сталую дапамогу звонку, а калі яе не атрымліваюць, перастаюць існаваць. У час апошняй справаздачна-выбарчай кампаніі яны крыху актывізаваліся, але надалей патрабуюць дапамогі. Падцягванне іх да ўзроўню сярэдніх і лепшых гурткоў павінна складаць адно з асноўных за-



**Харавая група Гайнаўскага аддзела БГКТ у час выступлення ў Дубічах Царкоўных на фестыне прысвечаным 50-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Фота (мх)**

 

# СЭРЦА Б'ЕЦЦА Ў ГАРАДКУ

Тое, што зрабіў Гарадок, з'яўляецца на культурнай ніве Беласточчыны новым і нештодзённым. Вялікім, прыгожым і моцным здарэннем.

Гарадок менавіта зрабіў паэтычна-вакальны спектакль па тэксту паэмы Янкі Купалы «Адвечная песня».

Сцэнарый, пастаноўка і афармленне сцэны належаць Ніне Мушынскай, песні для хора падрыхтаваў Сцяпан Копа.

Ніна Мушынская сягнула ў гушчар дагэтуль абсалютна нявыкарыстанага багацця беларускай паэзіі. Сягнула ў паэзію Янкі Купалы. Выбрала адзін з мацнейшых (хоць менш вядомых) твораў паэта.

Паэма «Адвечная песня» напісана Янкам Купалам у 1908 годзе, драма. Трагічная іронія паэта заключаецца ў тым, што тварэнне, якому дае ён гордае названне Чалавек, у мужыцкай бядзе і нядолі будзе пражываць знойны свой век і ў канцы з палёгкай зыйдзе ў магілу, дзе найспакайней. Такая гісторыя ў Купалы.

Ніна Мушынская ўліла ў купалаўскую безнадзейнасць аптымізм і радасць жыцця. Зрабіла каляровую расспяваную рэвію, дзе толькі на пачатку, у мінулым, спатыкаем няшчасную ўбогую калыску і дзіця-пастушка. Але ў спектаклі Ніны Мушынскай няма ўжо голаду і холаду, і смерці. Засталося жыць і цешыцца. Увесь трагічны фінал адкінула. Да мужыка прыходзяць са сваімі дарамі поры года суправаджаныя радаснай песняй гарадоцкага жаночага хора. Радаснымі словамі песні закрапляе хор радасць нашага жыцця сёння і заўтра: «усюды прывольна, дышацца вольна, сэрца б'ецца, хочацца жыць!»

Усе рэквізіты для сцэны і ўборы ўласнаручна выканалі гарадоцкія жанчыны.

Побач даем некалькі здымкаў з гэтага цудоўнага, непаўторнага спектакля.

**Вера Леўчук**



**Нарадзіны Чалавека. Маці — Ніна Цыванюк спявае першую калыханку пра вясну, лета, восень і зіму на роднай зямлі.**



**Вясна — Ліля Маеўская.**
**Табе рэчкі бурляць,**
**Табе кветкі цвітуць,**
**Табе пушчы шумяць,**
**І зязюлі пяюць.**



**Восень — Крыся Дамброўская**
**Дык як з кормам? Як жыта?**
**Двор то мае чым жыць:**
**Сенам пуня набіта**
**З дабром ток аж трышчыць.**



**Пастушок — Тамара Кандрусік.**
**Ў сваёй хаце і пры матцы**
**Жыў не жыў**
**Бяда выпхнула бадзяцца**
**У свет пабрыў.**



**Харавая група. Злева зверху: Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Люба Сэверын, Раіса Лісоўская, Марыя Іванюк, Ніна Налівайка, Іра Паўлючук, Ольга Нядзведзеў, Саша Яроцкая, Надзя Парэмбская, другая Раіса Лісоўская.**
**Злева ўнізе: Ніна Грэсь, Валя Крысюк, Галіна Жукоўская, Ніна Мартынюк, Зося Пашкоўская, Ліля Слюсаж, Геня Велічка, Тамара Кандрусік.**

**фота П. Семянюк і Цялюшэцкі**

# РЭВІЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У БЕЛАСТОКУ

Нарадзілася была на Беласточчыне цікавая ідэя: паказаць мастацкія дасягненні аматарскіх калектываў усіх існуючых на Беласточчыне нацыянальных меншасцей.

Урачысты канцэрт, што адбыўся ў апошнюю нядзелю красавіка ў вялікай зале Беластоцкага тэатра, давёў пераканаўча, што ідэя была добрая, цікавая і варта яе падтрымліваць у будучыні.

Прысутнымі на ўрачыстым канцэрце былі: Вітальд Мікульскі — сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, Уладзіслаў Канстанчук — кіраўнік Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП, Збігнеў Дамброўскі — старшыня Нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку.

Як арганізатары выступілі ў гэтым вялікім культурным мерапрыемстве, прысвечаным 25-годдзю Польскай Народнай рэспублікі, Аддзел культуры прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, Ваяводскі дом культуры ў Беластоку і ўсе нацыянальныя таварыствы: беларускае, літоўскае, украінскае і рускае. Урачысты канцэрт у Беластоку папярэдзіла шырокая праца ў вёсках, у паасобных нацыянальных асяроддзях. Сярод беларусаў, дзе працуе найбольш аматарскіх калектываў, адбыліся павятовыя агляды і ваяводскі агляд у Гайнаўцы.

Праграма ўрачыстага канцэрта была разнароднай. Працягваўся канцэрт-гігант 4 гадзіны. Вялікая зала тэатра была перапоўнена. Праграма ў пяці мовах: беларускай, літоўскай, польскай, украінскай і рускай. Але публіка разумела ўсе мовы, што толькі славу ёй прыносіць.

Усе калектывы, якія выступілі ва ўрачыстым канцэрце ў Беластоку, атрымалі грашовыя ўзнагароды. Узнагароды атрымалі таксама асобна кіраўнікі калектываў і некаторыя заслужаныя культурныя дзеячы з мясцовасцей, дзе калектывы працуюць. Узнагароды ўручалі Тадэуш Бакун — намеснік кіраўніка Аддзела культуры ПВРН, Станіслаў Зялінскі — сакратар Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта партыі, Казімір Дэркоўскі — старшыня журы агляда.

Малыя дзяўчаткі прыпадносілі аматарам-артыстам кветкі.

У канцэрце ў Беластоку прыняло ўдзел 12 калектываў з мясцовасцей (хранaлагічна паводле праграмы): Бельск, Беласток, Лісы, Пуньск, Мілейчыцы, Рыбалы, Бані Мазурскія, Вайтакеме, Гарадок.

Не заходзячы сёння далёка ў ацэнкі (зробім гэта іншым разам), хачу сказаць, што (паводле маёй скромнай думкі) найлепшымі з найлепшых былі Гарадок з паэтычна-вакальным спектаклем «Адвечнай песні» і два літоўскія хоры: мужчынскі з вёскі Вайтакеме, Сейненскага павета, і мешаны хор з Пуньска.

**Вера Леўчук**

данняў аддзелаў. Ужо на першых пасяджэннях яны павінны паставіць такія пункты на павестках дня, выявіць прычыны адставання гэтых гурткоў і



**Дуэт з Мілейчыц: Вера Ваўрынюк і Тэкля Вашчук прыгажосцю сваіх галасоў і выкананнем некалькіх песень захапілі ўсіх прысутных цэнтральнага агляду ў Гайнаўцы. Фота: П. Семянюк**

выпрацаваць больш атракцыйныя формы дзейнасці.

### АСВЕТА

Справы асветы ў роднай мове вырашаліся супольна з куратарыяй і грамадскімі бібліятэкамі. Эфектам іх ёсць значнае пашырэнне беларускай літаратурнай мовы і знаёмства сваёй літаратуры і гісторыі. Разам са школьнымі ўладамі вырашалі мы кадравыя праблемы, справы абеспячэння ўсіх 180 пачатковых школ, у якіх навучаецца беларуская мова, падручнікамі і іншымі дапаможнікамі. Супольна з інспектaратамі асветы ў Гайнаўцы, Бельску і Беластоку праводзілі мы канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы, арганізавалі конкурсы на найлепшыя дэкламацыі, апавяданні, удзельнічалі ў раённых метадычных нарадах, прымалі ўдзел у школьных святах, бацькоўскіх сходах і г.д. Утрымлівалі мы таксама цесную сувязь з агульнаадукацыйнымі ліцэямі, у якіх навучаецца беларуская мова і разам з педагагічнымі радамі імкнуліся вырашаць хвалюючыя іх пытанні.

У сваю чаргу мы можам з поўнай адказнасцю сказаць, што настаўнікі з'яўляюцца ў нашай працы найбольш надзейнымі актывістамі, ад якіх залежыць культурна-асветная праца ў асяроддзі.

### ЧЫТАЛЬНІЦТВА

Чытальніцтва беларускай кніжкі развівалася ў асноўным вакол грамадскіх бібліятэк. 54 з іх маюць кнігазбор (18000 кніжак) на беларускай мове. Некаторыя аддзелы БГКТ (Бельск, Гайнаўка) вырашылі перадаць ім нават свае бібліятэкі. Іншыя зноў — Беласток, Варшава, Саколка і Мілейчыцы — захоўваюць свае бібліятэкі і ўзбагачаюць іх. Кнігазбор гэтых бібліятэк складае каля 6 тысяч кніг. Карыстала з яго ў сярэднім каля 520 сталых чытачоў.

Колькасць кніжак узрастае даволі памалу (600—1200 штук у год) з увагі на цяжкасці набыцця іх. Дагэтуль найбольшую колькасць кніжак атрымалі мы ў рамах абмену з Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Мінску, Беларускага таварыства дружбы, Саюза беларускіх пісьменнікаў, прыватных асоб і часткова з «Дому кніжкі» ў Беластоку.

Найбольшай пачытнасцю сярод насельніцтва карысталася «Ніва», тыраж якой складае 7000 экземпляраў, у гэтым падпіска — 4870 экз. і рознічная продаж — 2130 экз. «Ніва» сталася папулярнай газетай у асяроддзі. Не ўсе аднак члены БГКТ яе выпісваюць і слаба далей папулярызуюць сярод насельніцтва. Абавязкам кожнага члена таварыства павінна быць цесная сувязь з рэдакцыяй «Нівы».

Чарговае месца ў пачытнасці беларускай літаратуры займалі выданні ГП БГКТ. Карысталіся яны вялікай папулярнасцю і адначасова выклікалі дыскусіі і засцярогі. Спецыфічныя ўмовы дзейнасці, а яшчэ больш, надта скромныя сродкі на падрыхтоўку выданняў, прымушалі да сталых пошукаў, эксперыментаў, з якіх у адных выпадках выходзілі мы добра, у іншых зноў — цярпелі няўдачы. На працягу апошніх 3 год ГП БГКТ падрыхтавала 6 кніжных публікацый. Усе публікацыі за выключэннем апошняй («Жнівень слоў») ужо поўнасцю распаўсюджаны.

### АМАТАРСКІ РУХ

У галіне аматарскага руху вялікіх змен на працягу апошняй кадэнцыі не адбылося. Лік вясковых аматарскіх калектываў астаўся нязменным. Амаль такі ж самы (У 1966 — 62 калектывы, у тым 48 драматычных, у 1967—67 калектываў, у тым 62 драматычных, у 1968 — 68 калектываў, у тым 62 драматычных). БГКТ надалей не мае кадры падрыхтаванай да аказвання дапамогі гэтым калектывам, не маюць яе таксама ПДК і ВДК. Кіраўнікамі гэтых гурткоў найчасцей з'яўляюцца настаўнікі, бібліятэкары, сяляне. Рэпертуар атрымліваюць у асноўным з ГП.

Аб ролі мастацкай самадзейнасці хай сведчыць такі прыклад. На 17 гурткоў БГКТ у Мілейчыцкім аддзеле існуе 11 мастацкіх калектываў. Ад 1966 года яны выступілі 186 разоў.

Пры ўсіх аддзелах БГКТ існуюць пазычальні беларускіх народных убораў. Было іх у канцы 1968 г. звыш 300 камплектаў. У 1969 г. падрыхтавана 60 новых камплектаў. Атрымалі іх найлепшыя ў гэтым годзе харавыя калектывы ў Гарадку і Бельску. Праз увесь перыяд кадэнцыі дзейнічала пры ГП БГКТ эстрадная група «Лявоніха»». У гэтым перыядзе дала яна каля 600 канцэртаў.

### МУЗЕЙ

12.III.1966 г. афіцыйна быў адкрыты Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы. У 1967 і 1968 гадах сярэдняя колькасць наведвальнікаў — 6000, у тым каля 400 заграніічных. Пакінутыя наведвальнікамі запісы сведчаць аб вялікім зацікаўленні экспанатамі. Іх цяпер 960, палова з іх, з увагі на цяжкія памяшкальныя ўмовы, не экспануецца. ГП БГКТ вяло намаганні ў справе актывізацыі грамадскага камітэта пабудовы музея. За гэты час грамадскі камітэт пабудовы музея павялічыў сваё конта да 334 тысяч злотых.

Кожнаму члену нашага таварыства залежыць, каб праца БГКТ у будучыні была як найлепшай. Таму асноўным заданнем кіруючага актыву будзе згуртаванне шырокіх мас беларускага насельніцтва вакол нашай арганізацыі дзеля рэалізацыі статутовых заданняў БГКТ у сваім асяроддзі.



 

 

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Паўсядзённая сукенка-паліто з шарсцяных тканяў.

Фота В. Казлова

## ЛЕКАР— ПРЫРОДА

Чаромха звычайная. Калі пачынае цвісці гэта прыгожая духмяная расліна, людзі па сапраўднаму адчуваюць прыход вясны. Але мала хто ведае пра іншыя якасці чаромхі.

Між тым народная медыцына раіць піць адвар кары і лісця яе пры хваробах страўніка. Кара чаромхі — настоеная на гарэлцы, — добрае націранне пры радыкуліце. Кветкі настойваюць як чай і прамываюць імі хворыя вочы. Свежыя лісты прыкладаюць да нарываў. Адвар пладоў п'юць пры прастудзе і туберкулёзе лёгкіх.

У навуковай медыцыне ўжываюць плады чаромхі, якія маюць дубільныя рэчывы, арганічныя кіслоты, цукар. У насенні чаромхі знойдзем таксама гліказід амігдалін. Прэпараты з пладоў чаромхі ўжываюць як вяжучы сродак пры растройствах страўніка.

Збіраюць плады зусім спелыя, перад сушкай ачышчаюць ад пладаножак. Сушаць у печах ці сушылках пры тэмпературы 50—60 градусаў. Высушаныя плады паху не маюць, на смак — кісла-салодкія.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ВОЖЫКІ Ў ХАЦЕ

Малады рабочы саўгаса «Забалоцкі» (БССР) Віктар Капралаў аднойчы прынёс з лесу вожыка і пусціў у хату. Лясны жыхар хутка прывык да людзей, нават з рук пачаў браць корм. Праз некаторы час у кватэры Капралавых «пасяліліся» яшчэ два вожыкі. Днём яны бегаюць па хаце, на ноч забіраюцца пад печ.

Як жа здзівіўся Віктар, калі сям'я калючых жывёл павялічылася на пяць малышоў. Утварылася цэлая вожыкавая ферма. Цікава, што ў хаце Капралавых, пасля таго, як пасяліліся вожыкі, зусім зніклі мышы і іншыя грызуны.

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### Суп малочны з морквай і бульбай

Моркву нарэжце дробнымі долькамі і прыпусціце ў падсоленай вадзе да палавіны гатоўнасці. Дадайце бульбу, нарэзаную буйнымі долькамі, і зварыце да гатоўнасці. Ваду зліце, а гародніну заліце кіпячым малаком. Суп запраўце сметанковым маслам, цукрам.

На 350 г. малака 3 морквіны, 4 бульбіны, 1 ст. лыжка сметанковага масла, цукар.

# 50 ГОД ПОЛЬСКАГА ЧЫРВОНАГА КРЫЖА

Чырвонакрыжавая ідэя ў Польшчы: несці дапамогу раненым салдатам на вайне, мае звыш 100 год. Рэалізавана была ўжо ў час паўстанняў 1830, 1863 гадоў. Адна з грамадскіх арганізацый называлася тады Аб'яднаннем Чырвонага Крыжа і працавала пад кіраўніцтвам дзеячкі I Пралетарыята Марыі Багушэвіч.

У студзені 1919 года адбыўся першы арганізацыйны сход Польскага Чырвонага Крыжа. Польскі ўрад падпісаў жэнеўскую канферэнцыю ў ліпені 1919 г. і ПЦК стаўся поўнапраўным членам Лігі Аб'яднанняў Чырвонага Крыжа.

Пасля заканчэння першай вайны ПЦК нёс дапамогу насельніцтву. У 1937—38 г. была праведзена ў ПЦК першая акцыя аддавання крыві хворым. У 1938 годзе да ПЦК належала 300 тысяч дарослых і 400 тысяч моладзі.

У пачатку другой вайны ПЦК арганізаваў 100 шпіталяў для раненых. Яго бюро інфармацыі і пошукаў запісала 80 тысяч прозвішчаў — ахвяр вайны.

Закончылася другая вайна. І зноў арганізацыя прыступіла да ліквідавання яе астаткаў. Залажыла 30 шпіталяў, 5 санаторый, 300 амбулаторый, 24 пункты апекі над маці і дзіцём, 15 донарных станцый (у 1950 годзе —177). Некалькі год пасля вайны ПЦК стаецца масавай арганізацыяй. У канцы 1968 года налічвае 5 мільёнаў членаў, 54,6 тыс. гурткоў, 62 тыс. санітарных калектываў, 660 тыс. ганаровых донараў.

У картатэках ПЦК запісана і зараз 10 мільёнаў асоб, якіх шукаецца. Яшчэ ў 1968 годзе знайшоў ПЦК 6 тысяч асоб, якія былі загінуўшымі, або пражывалі ў розных кутках свету і не ведалі пра сябе. (вл)



Размова ў кабінеце сакратара Ваяводскага праўлення ПЦК у Беластоку Анны Сулаўко (справа), як дапамагчы пацярпеўшым ад пажару. Унізе бачым мяшкі з вопраткай, якую пасылаецца патрабуючым.

## НАВІНЫ ЭКРАНА

**«АПОШНІЯ ДНІ»** — польскі фільм, як бы другая частка вядомага фільма «Напрамак Берлін», але адначасова зусім самастойны твор. У «Напрамку Берлін» было паказана здабыванне Одры, а ў «Апошніх днях» маем гісторыю паасобных, тых самых, што ў «Напрамку Берлін» герояў, напрыклад, капітана Нарога (Войцех Сямён). «Апошнія дні» даюць цікавыя і драматычныя сцэны здабывання самога Берліна. Фільмовая акцыя суправаджаецца дакументальнымі здымкамі здабыцця Берліна ў канцы II вайны.

Кароткі змест прадстаўляецца так: да Берліна яшчэ 44 кіламетры. Першая Армія Войска Польскага, якая змагаецца ў рамах Беларускага Фронту, ідзе на Берлін. Польскія салдаты здабылі каштоўны дакумент аб германскіх планах. У штаб мае завесці іх капітан Нарог, які па дарозе спатыкае свайго бацьку. Аплакваў яго ўжо, думаючы, што загінуў. Спатыкае яшчэ дзяўчыну, у якой на смерць і жыццё закахаецца.

**«ДЗІКАЯ ЭЛЬЖБЕТА»** — лірычная чэхаславацкая камедыя, пра 50-цігадовага шафёра, які ў сваім узросце знайшоў сапраўднае каханне — дзікую дзяўчыну з папраўчага дому.

**«Я, СПРАВЯДЛІВАСЦЬ»** — таксама фільм чэхаславацкі. Што аб ім гаворыць яго творца Збынак Брыных: «У маіх фільмах я стараўся закрануць праблему хваробы, імя якой фашызм».

У фільме «Я, справядлівасць» паказаны Гітлер, якога іншы фашыст замкнуў у турму і хоча вывучанымі гітлераўскімі спосабамі задаць свайму вязню смерць бо... сам паверыў у сваю «місію», як калісьці паверыў Гітлер. Фашызм не памёр разам з Гітлерам. Таму кожны павінен быць чуйны. Гэтая хвароба і зараз точыць заходнюю Германію.

### ФЕСТЫВАЛІ

Адбыўся I агульнапольскі фестываль фільмаў для дзяцей і моладзі. Прынялі ў ім удзел:

Студыя рысунковых фільмаў з Бельска Белай (прадставіла 13 фільмаў)

Студыя малых форм Се-Ма-Фор з Лодзі (6 фільмаў), Студыя фільмовых мініяцюр з Варшавы (15 фільмаў),

Польская тэлевізія з Варшавы (4 фільмы),

Кінафабрыка асветных фільмаў з Лодзі (3 фільмы). (вл)

## Чвэрць стагоддзя назад




Памалу знімалі мы свае пасты. Сцягвалі нашых людзей з Беластока, Бельска, Мілейчыц, Кляшчэль. У атрадзе з'явіліся новыя, няведамыя партызанам, твары.

Нямецкія ўлады ў Бельску рыхтаваліся да ўцёкаў. Дырэктар банка загадаў шафёру падрыхтаваць машыну да далёкай дарогі, пагрузіць найдаражэйшыя рэчы. Шафёр, выконваючы загад дырэктара, нагрузіў самаход і сказаў дырэктару, што мала ў яго бензіну і трэба зрабіць запас на дарогу. Дырэктар вылаяў яго за нядбайнасць, але загадаў ехаць і напоўніць каністры. Пасля пятнаццаці мінут ад гэтай гутаркі дарогай, што ішла з Бельска ў Красную Весь, імчаўся чорны Мерседэс. Каля шафёра сядзеў шуцман Юзэф Матушэўскі, на заднім сядзенні — у мундзірах нямецкіх чыгуначнікаў — чыгуначнік Жэнька, касір з нямецкага павятовага праўлення скупкі збожжа і загадчык бензінавай базы. Прывезлі яны ў атрад чамадан нямецкіх марак. Мерседэс закапалі ў ляску паміж вёскамі Красна Весь і Шашылы.

Немцы ўцякалі. Нашы сэрцы напаўняліся радасцю і адначасова непакоем. У галаве безупынна кружыла адна думка: ці перажывем франтавую буру? Свабода была вось, вось. Вельмі хацелася жыць, уласнымі вачыма ўбачыць канчатковае паражэнне ворага, убачыць свет пасля вайны, а потым — хай ужо будзе, што хоча.

Усім атрадам сядзелі мы ў густым зарасніку над ракой Нурэц якіх трыста метраў ад фальварка Быстрэ. У фальварку былі немцы. Чулі мы іх гаворку, крык, удары гонга. Потым дайшлі мы да вываду, што гэта не найлепшае месца. Рака і багна можа быць выкарыстана на абарону і можа тут дайсці да непасрэднага бою.

21 ліпеня зразумелі мы, што знаходзімся ў непасрэднай франтавой паласе. Калі сцямнела, пераправіліся мы праз раку і багна і пайшлі на захад у напрамку лясоў, якія доўгім пасмам цягнуліся ад Таргавыска аж да Велін-Русі. Дайшлі мы да шашы Бельск-Сямяцічы паблізу маёнтка Андрыянкі. Шаша была запруджана калонамі адступаючых гітлераўскіх войск. Трэба было вяртацца. Зноў вярнуліся мы над раку Нурэц. Было ўжо пасля поўначы. З супрацьлеглага ўсходняга боку такама бурчалі маторы, ляскатала жалеза, грукаталі калёсы.

— Спыні хлопцаў, — сказаў Хмялеўцаў Смірнову, — трэба падумаць, што рабіць далей. Мы ў мяшку: за намі немцы, а хто перад намі — чорт яго ведае!

Атрад спыніўся. Партызаны шэптам вялі ажыўленыя спрэчкі, мы раіліся.

— Я, таварышы, ведаю тут кожны корч, — гаварыў Смірноў. — У кіламетры адгэтуль Нурэц раздвойваецца і ахоплівае невялікі астравок: каля сто метраў даўжынёй і пяцьдзесят шырынёй. Астравок пакрыты вельмі густым маладым бярэзнікам. Па баках найшырэйшыя ў гэтым месцы багны. Прапаную схавацца на гэтым астраўку.

— У каго іншыя прапановы? — спытаў Хмялеўцаў.

Ніхто не мог унесці нічога канкрэтнага, дык усе згадзіліся на прапанову Смірнова.

— Добра, ідзем на астравок, раз паміраць, — сказаў Хмялеўцаў. — Ты, Пеця, раскруці радыёстанцыю, вызаві Мацвея. Перадай коратка: сувязь спыняем, няма ўмоў працы, фронт. Падай каардынаты, мо гэта будзе наша апошняе паведамленне, хай ведаюць, дзе мы.

На світанні пачаўся артылерыйскі дуэт. З усходняга боку ракі білі савецкія пушкі, размешчаныя ў раёне маёнтка Быстрэ і Калецiч. З заходняга боку стралялі нямецкія батарэі, размешчаныя недзе на хутарах Вандалін. Над нашымі галовамі пераляталі са свістам снарады ў адзін і другі бок. Невялікія клубкі чорнага дыму паказвалі ў паветры месца ўзрываў шрапнелі.

Атрад ляжаў нерухома, прыціснуўшыся да зямлі. Кожны дасканала ўяўляў, што знаходзімся паміж молатам і кавадлам, і найменшы неасцярожны рух можа нас выдаць.

Страляніна трывала нядоўга, мо пятнаццаць — дваццаць мінут. Заступіў яе грукат матораў. Потым наступіла поўная цішыня.

Не ведаючы, у якім знаходзімся становішчы, ляжалі мы далей, схаваўшыся, да гадзіны дванаццатай. Пасля дванаццатай убачылі мы нейкага маладога хлопца, які ішоў з вандалінскіх хутароў убок ракі. Паслалі мы аднаго партызана, каб выпытаў у хлопца, што чуваць у ваколіцы. Хлопец сказаў, што немцы ўцяклі, але саветаў таксама няма. Бацька выслаў яго ў разведку.

Партызан, які дапытваў хлопца, быў галодны, як воўк, таксама як і мы, дык папрасіў хлопца, каб той прынёс нешта з'есці. За гэта Смірноў змяшаў няўдачнага партызана з балотам. Пасля паўгадзіны зноў убачылі мы хлопца. У руцэ нёс вядро, а на плячах мяшок. У вядры было малако, а ў мяшку дзве вялікія буханкі жытняга хлеба. Заззялі нашы вочы. Кожны атрымаў глыток малака і скібу хлеба.

З астраўка перабраліся мы на старое месца ў зараснік пад высокую ёлку. Аднаму партызану Смірноў загадаў залезці на гэту ёлку і агледзець ваколіцу.

— Ну, што там бачыш? — нецярплівіліся партызаны.

— Што бачу? — не адрываючы ад вачэй бінокля, сказаў наш назіральнік. — Бачу, што са Снежак у наш бок валіць нейкі натоўп... бы разбітая калона войска... але гэта, хіба не войска... едуць



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЧАМУ ТАК?

УГрадалях ёсць добрыя ўмовы да працы і дзейнасці моладзі. Ёсць тут святліца, можна ў ёй арганізаваць культурныя мерапрыемствы і культурны адпачынак. Але, на жаль, так няма. Ключ ад святліцы знаходзіцца ў прадаўца, так што моладзь не мае да яе доступу і гэтага доступу зусім не дамагаецца. А гэта таму, што ў маладых юнакоў і дзяўчат не хапае маладзёжнага запалу, смеласці, ініцыятыўнасці. Няма там і сапраўднага маладзёжнага важака. І нейк дзіўна, што ёсць тут гурткі і БГКТ, і ЗМВ, і ЛьЗС. а ўсё так вяла робіцца, існуе недавер у магчымасці выканання сваёй ролі.

Дзіўна і таму, што дзейнасцю гэтых арганізацый не цікавяцца павятовыя ўлады гэтых арганізацый, не цікавяцца ГРН і ПОП, не цікавіцца ніхто. А здавалася б, гэта справа, справа культурнай дзейнасці маладзёжных арганізацый, справа выкарыстання памяшкання святліцы культурнай працы, павінна ляжаць усім на сэрцы.

**Юрка Іванчук**
**Маліннікі**

## МОЛАДЗЬ ВЁСКІ АЎГУСТОВА

Гурток ЗМВ у Аўгустове, што пад Бельскам, лічыцца адным з найлепшых у павеце. У мінулым годзе пры пабудове школьнага стадыёна (з якога карыстае і моладзь) унеслі грамадскай працы на 30 тыс. зл. Члены гуртка разбудзілі да дзейнасці гурток ЛьЗС. Па просьбе гуртка вясковых гаспадынь моладзь абгарадзіла драцяной сеткай пляцоўку, на якой гуляюць маленькія дзеці ў час летніх палявых работ. Арганізуюцца тут маладзёжныя вечарыны, цікавыя лекцыі, у клубе «Рух» шахматныя турніры, спатканні з цікавымі людзьмі, супрацоўніцтва з іншымі гурткамі ЗМВ-у.

Дзейнасць гуртка ЗМВ у Аўгустове высока ацаніла Галоўнае праўленне ЗМВ-у і прызнала яму медаль за выкананне абавязацельстваў прынятых з нагоды V з'езда ПАРП. Старшыня гуртка ЗМВ Юра Лявоцюк атрымаў дыплом ад Ваяводскага праўлення ЗМВ-у і пахвальнае пісьмо ад ГП ЗМВ-у.

**В. Фалькоўскі**
**Бельск Падляшскі**

## НАСУСТРАЧ ЮБІЛЕЮ

У сувязі з 25-годдзем Народнай Польшчы члены гуртка ЗМВ пры ПОМ-е ў асадзе Нарва (Гайнаўскі павет) возьмуць удзел пры пабудове спартыўнай пляцоўкі да баскетболу і пры парадкаванні ПОМ-аўскага панадворка.

ЗМВ-оўцы з гуртка пры ГС-е ў Нарве дапамогуць зрабіць дзіцячы парк і пасадзіць дрэўцы.

У вёсцы Чыжы моладзь забавязалася працаваць пры наладжванні пляцоўкі для дзіцячых гульняў.

**Янка Цялушэцкі**

## ПАЎРАСТАЛІ Ў ЗЯМЛЮ

На дарозе Грабавец-Стрыкі ў Бельскім павеце даўней быў драўляны мост на рэчцы Бернаткі. Потым гэты мост заваліўся і паплыў з вадою. На пабудову новага маста прывезены былі, між іншым, бетонныя цэмбравіны. Яны праляжалі там пяць гадоў. Гэтыя цэмбравіны паўрасталі ўжо ў зямлю і абрастаюць мохам. У справе пабудовы новага маста гаспадары з Грабаўца і Стрыкоў многа разоў звярталіся ў прэзідыум ГРН у Лубіне Касцельным. На жаль, ніхто дагэтуль мастом не цікавіцца. Цікава аднак, як доўга яшчэ праляжаць цэмбравіны над рэчкай Бернаткі?

**Я. М.**
**Гайнаўскі**




### Парай, Сэрцайка!

Жызу на вёсцы. Маю 26 год. Штодзённа спатыкаўся я з Кацяй, у якой праз нейкі час закахаўся. На жаль, яна мае мужа і шасцігадовага сына. Калі толькі мужа Каці няма ў хаце, я наведваю нават яе дома. У апошнія дні я пераканаўся, што не магу без яе жыць. Гэта выйшла з яе боку, таму што пры апошняй нашай сустрэчы мы рашылі пажаніцца. Аднак маё сумленне не дазваляе на гэта, таму што я хадзіў да дзяўчыны, якой таксама абяцаў ажаніцца. Але бацькі мае не дазваляюць з ёю жаніцца.

Дарагое Сэрцайка, парай, з якой ажаніцца.

**Ваня з Гайнаўшчыны**

**Ваня! Сам пішаш, што закахаўся ты ў Каці праз нейкі час. Дык значыць, што тваё пачуцці да яе нетрывалыя, тым больш, што як вынікае з лісту, ты думаеш таксама пра дзяўчыну, з якой бацькі тваё не дазволілі жаніцца. Відаць, яна табе падабаецца. Ты ўжо дарослы чалавек, маеш 26 год, і мне здаецца, што хаця і бацькі тваё не вельмі згодны з такім выбарам, аднак усё залежыць ад цябе. Ты павінен пакінуць Кацю, яна мае мужа і, найважнейшае, сына. Ты ж даваў слова дзяўчыне і павінен вярнуцца да яе, тым больш, што і сам пішаш, што мучыць цябе сумленне. Не разбівай сям'і, не забірай бацькі дзіцяці, а вяртайся да дзяўчыны, калі толькі маеш да яе пачуцці. Калі не, пачакай, сустрэнеш іншую, пакахаеш.**

**Жадаю ўсяго добрага**
**Сэрцайка**

## «ГАРАДСКІЯ ГОСЦІ»



Аматары з Маліннік маюць добра падрыхтаваную п'есу Алеся Барскага «Гарадскія госці». З ёю выступалі ў Бельску на павятовым аглядзе драмгурткоў БГКТ і ў Гайнаўцы на цэнтральным аглядзе.

На здымку: Сцэна з п'есы «Гарадскія госці». Злева Міхась Іванчук у ролі бацькі — Тамаша Раманіка, Вера Копа ў ролі Віялеты і Юрка Іванчук у ролі Кастуся — сына Тамаша. (мх)

Фота: П. Зінкевіч

## «ПРЫМАКІ»



Сухініцкі драмгурток, які працуе пад кіраўніцтвам Эдуарда Рудніцкага, з'яўляецца адным з найлепшых на Сакольшчыне. З п'есай Янкі Купалы «Прымакі» выступаў ён у многіх мясцовасцях, у тым ліку на аглядах у Астроўку і Гайнаўцы.

Фота ЯЦ

## ПАЧАЛАСЯ ПРАДУКЦЫЯ

9 красавіка г.г. керамічная фабрыка ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет), якая належыць да Падляшскага прадпрыемства будаўлянай керамікі, была перадазана ў карыстанне. У новай фабрыцы працуе 130 асоб з Ляўкова і навакольных вёсак. Многія з іх працавалі пры яе пабудове, або здабылі кваліфікацыю ў іншых ваяводствах у такіх самых фабрыках і цяпер з'яўляюцца добрымі «фахоўцамі». Яшчэ толькі ляўкоўская фабрыка пачала прадукцыю, а ўжо ў Варшаўскім аддзеле бюро праектаў будаўлянай керамікі рыхтуецца дакументацыю на пабудову блізнячай фабрыкі, якая будзе прадукаваць звыш 18 мільёнаў керамічных адзінак цэглы. Блізнячую фабрыку будаваць будзе тут на месцы беластоцкая «Прамыслоўка». Залежы высакаякаснай гліны тут вельмі вялікія.

У гонар 25-годдзя ПНР маладая брыгада новай фабрыкі выпрадукуе 1 мільён будаўляных адзінак матэрыялаў звыш плана, пасадзіць дрэўцы вакол фабрыкі і ўпарадкуе фабрычную пляцоўку.

**Янцал**
**Новае Ляўкова**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Dzień w którym wypłynęła ryba" (grecki), 13—14. „Więzy" (węgierski), 15—16. „Napad stulecia" (angl.), 17—18.

**Дубіны**

„Prywatna burza" (czeski), „Rozwód z miłości" (węgierski), 17—18.

**Нараўка**

„Hrabina Cosel" (polski), „Otello z prowincji" (węgierski), 14—18.

**Нарва**

„Jak się pozbyć Helenki" (czeski), „Miałem 19 lat" (NRD), 14—18.

**Чыжы**

„Berlin" (radz.), „Romanca na trąbkę" (czeski),14—18.

**Дубічы Царкоўныя**

„Niebo bez krat" (radz.), „Miłosne kłopoty" (radz.), 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), „Za naszą i waszą wolność" (polski), 14—18.

**Орля**

„Rondo" (jugosł.), „Trzy topole" (radz.), 14—18.

**Райск**

„Panowie z kompleksami" (włoski), „Paryż-Warszawa bez wizy" (polski), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Kozacy" (radz.), „Cena strachu" (franc.), 13—16.

**Міхалова**

„Susza" (brazylijski), 13—14. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 15—16. „Zakochana wiedźma" (włoski), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Romans z nieznajomym" (USA), 13—14. „Gdzie jest trzeci król" (polski), 15—16. „Kierunek Berlin" (polski), 17—18.

**Шудзялава**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Skrytobójcy" (NRD), 14—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Kochać jak Romeo" (jugosł.), „Szesnasta wiosna" (radz.), 14-18.

**Новы Двор**

„Ostatni po Bogu" (polski), „Piąty jeździec apokalipsy" (czeski) 17—18.

**Ліпск**

„Intrygantki" (czeski), „Dywersanci" (jugosł.), 14—18.

---

таксама фурманкамі...

Выйшлі мы на ўскраіну зарасніку і з-за карчоў прыглядаліся тым, што ішлі ў нашым напрамку. Даляцелі ўжо гукі гармоніка і мелодыі знаёмых песень. Свае!

Калі паход наблізіўся яшчэ больш, пазналі мы жыхароў Шашыл, Снежак, Быстрых. Калону ўзначальваў наш «Пётр» — Юльян Хількевіч. Побач яго ішлі Вольга Баранская, Жанна Кастрыцкая, Іван Саевіч, Павел Вашчук, Аляксандр Саўчынскі і шмат іншых.

Убачыўшы нас, паход крыкнуў «Ура!» «Перамога!»... Усе кінуліся ў наш бок. Узнік страшэнны гоман: абдымкі, пацалункі, кожны нешта гаварыў, нешта расказваў. Старэйшыя жанчыны плакалі, маладыя смяяліся. Мужчыны, больш практычныя, выгружалі з вазоў хлеб, мяса, сала, каўбасы, ну і літроўкі з самагонам.

— Усё папсулі, усё выйшла не так, як трэба, папсулі дзяўчаты... — наракала Вольга Баранская.

— Што папсулі, Оля? Што ты гаворыш? — спытаў я ў яе.

— Дык мы ж мелі вас прывітаць як трэба: з хлебам і соллю, з прамовай. А гэтыя пабеглі бы шалёныя. А потым усе. І ўсё памяшалася...

— Што ты, усё выйшла так добра, што ты нават сабе не ўяўляеш!

Я адышоў убок, сеў на пянёк і ўглядаўся на распалены ў апошні раз партызанскі касцёр, вакол якога гуло ад весялосці.. Думаў я аб таварышах па барацьбе і аб простых і шчырых вясковых людзях, якія падтрымлівалі нас у цяжкіх хвілінах, памагалі, кармілі, лячылі, хавалі, перасцерагалі. У галаве падсведама кружыла адна і тая самая думка: аднак выжыў, цэлы і здаровы дачакаўся вызвалення, свабоды. Але ў думцы вярталіся перажытыя дні. Я бачыў твары таварышоў па зброі, якім не суджана было дачакацца гэтай радаснай хвіліны.

— Што ты, Валодзя, уцёк ад кампаніі, сядзіш тут і нешта думаеш, — пачуў я словы Хмялеўцава.

— Прыпамінаю, Дзмітры Іванавіч, усё што мы супольна перажылі, каб захаваць добра ў памяці, каб не забыць і перадаць потым маладым пакаленням, нашым дзецям і ўнукам, каб ведалі, што гэта вайна і фашызм.

— Адкінь, Валодзя, сумныя думкі, мы сваё заданне выканалі належна. Пайшлі, не сядзі тут у так радаснай хвіліне.

— Лічу, Дзмітры Іванавіч, што трэба ўшанаваць памяць загінуўшых таварышоў. Скажыце некалькі слоў.

— Ты, Валодзя, быў тут найдаўжэй. Ведаеш усіх гэтых людзей, дык скажы ты, так будзе лепей.

Падышлі мы да кастра.

Я хацеў сказаць прыгожую, узнёслую прамову, але думкі рассыпаліся і не мог я іх сабраць.

— Таварышы! Сёння, вітаючы свабоду на вызваленай зямлі, аддайма пашану тым, якія не дачакаліся гэтай хвіліны і адышлі ад нас назаўсёды!..

Было гэта 22 ліпеня 1944 года. Тады я яшчэ не ведаў, што гэта дзень адраджэння Польшчы і нарадзіны Народнай Польшчы.

**Ян Анацік**



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7107

